**Мікола МАЛЯЎКА**

## Грошы любяць цішыню

Адпускныя і зарплату
Разам атрымаў Змітрок.
Будні дзень, а ў дзядзькі свята:
Грошай – поўны кашалёк.

Чалавек ён шчыры, просты,
Дык сабраў радню, сяброў.
Гаварылі госці тосты
І жадалі: «Будзь здароў!»

Чым далей, тым шуму болей,
Захмялеўшы, як чмялі,
Весяліліся ў застоллі,
І спявалі, і гулі.

Дні праз тры, з пахмелля шэры,
Ён працверазеў, Змітрок,
І вачам сваім не верыць:
Звяў без грошай кашалёк.

Жонка паглядае хмура,
Бэсціць мужа і радню:
– Я ж табе казала, дурань,
Грошы любяць цішыню!






Аляксандр КАРШАКЕВІЧ.




Аляксандр ПЯТРОЎ.

## Пахвальбу пакіньце папугаям

Жыве ў кватэры пэўнай папугай
Ва ўтульнай клетцы без нуды і гора.
Яго бадзёрасць льецца цераз край,
Інакш сказаць, імпэту ў птушкі мора.

Ад ранку і цалюткі божы дзень
Любуецца сабой ў люстэрку лодар.
Пакуль святло не зменіць ночы цень,
Гучаць ва ўласны гонар песні-оды.

Бываюць і ў народзе «пявуны»,
Гатовыя як быццам без маны
Сябе ўзвышаць да зор на небакраі.

Калі сябе хто-небудзь хваліць сам,
Цана яго прыватным пахвальбам
Такая, як і ... спевам папугая.

**Генрых ТАРАСЕВІЧ,**
*г. Мінск.*



# «Сапраўдны сябар»

*Фельетон*

— Ігар казаў, што не прыйдзе, бо едзе ў камандзіроўку. Але, пэўна, ён прыдумаў гэтую адмазку, каб мяне не бачыць, — Слава патлумачыў гасцям, якія сабраліся павіншаваць яго з днём нараджэння, чаму на ўрачыстасці не прысутнічае стары сябар. — Я адмовіўся пазычыць грошы на смартфон, і цяпер Ігар робіць выгляд, што пакрыўдзіўся на мяне!

— І навошта ты сябе абяляеш? Як табе не сорамна! Адмовіць хвораму! Радасны чалавек і папраўляецца хутчэй, а табе абы грошы лічыць, — Аксана, сястра Славы, пачала сарамаціць брата.

— Ён нічога не казаў пра хваробу... — здзіўлена прамовіў той.

— Ігар мне прызнаўся, калі я брала крэдыт на яго лячэнне. Доўга распавядаў нешта пра ракавую пухліну і абяцаў вярнуць грошы, калі пачне папраўляцца. З пытаннямі я не лезла: навошта лішні раз хваляваць хворага. Бачылі б вы хлопца: такі погляд можа быць толькі ў чалавека, якому патрэбна дапамога, але які саромеецца папрасіць.

— Няўжо Ігар хварэў? У мяне ён пазычыў грошы на адкрыццё свайго бізнесу, — Міхась, сябар Славы і Ігара, далучыўся да гутаркі. — Казаў, што «праца на чужога дзядзьку» яму надакучыла і жадае быць сам сабе гаспадаром. Я, праўда, і не зразумеў, чым Ігар плануе займацца. Але ён так распавядаў пра мару быць прадпрымальнікам, пра хуткі высокі прыбытак. Нават абяцаў мяне ў долю ўзяць, калі раскруціцца крыху. Ігара я ведаю яшчэ з універсітэта, таму ніякіх распісак з яго не браў.

— А я чатыры месяцы таму аформіў на сябе ноўтбук у крэдыт для Ігара, — яшчэ адзін госць, Мікалай, вырашыў падзяліцца сваёй гісторыяй. — Ён казаў, што камп’ютар зламаўся, а на новы няма грошай. А гэтая тэхніка яму вельмі патрэбна, бо без яе жыцця няма. Запэўніў, што плаціць крэдыт будзе сам. Першы плацеж сапраўды быў, але наступныя рабіў ужо я. У нашага таварыша то грошай не было, то яны павінны былі вось-вось з’явіцца, то ўвогуле не здымаў трубку.

— Слава, мы ніколі не бачылі ў Ігара новага ноўтбука... Ён старым заўсёды карыстаўся, — у голасе Аксаны чулася трывога і падазронасць.

Усе госці глядзелі на Славу як на чалавека, які прайшоў у лесе ад гадзюкі і не закрануў яе.

— Здаецца, мне аднаму «пашанцавала». У маім выпадку Ігар сам адмовіўся ад дапамогі. Ён прасіў мяне аформіць крэдыт, маўляў, самому не даюць грошай, а фінансавыя сродкі яму вельмі патрэбны. Абавязваўся і кляўся ўсё аплачваць своечасова. Але я падумаў, што мяне хочуць надурыць, і адмовіўся, бо Ігар нават не сказаў, навошта спатрэбіліся грошы. Тады я вырашыў праверыць свае здагадкі і прапанаваў пазычыць частку сумы, але толькі пры ўмове, што Ігар пакіне пазыковую распіску. Інакш мне жыцця не будзе ад маёй жонкі-юрыста, калі яна даведаецца, што я здзелку на суму звыш дзесяці базавых велічынь не аформіў пісьмова. Ігар спрабаваў маніпуляваць, называючы мяне падкаблучнікам. Толькі адразу замоўк, пасля пытання, чаму ён палохаецца пазыковай распіскі, калі праз тры месяцы збіраецца вяртаць грошы.

Госці за сталом засмуціліся, разумеючы, што іх падманулі. Ігар ведаў, як закрануць кожнага. Аксане, якая магла быць яго маці па ўзросце, ён схлусіў пра хваробу. Міхася, які некалі пад бацькоўскім прымусам выбраў працу ў офісе, махляр зацікавіў гісторыяй пра ўласную справу. Праграміста Мікалая ён зачапіў аповедам пра тэхніку. У словах Ігара не бачылася падману, асабліва, калі ён соладка спяваў пра сапраўднае сяброўства. А што такое некалькі сотняў долараў супраць магчымасці даказаць, што ты таварыш, які заўсёды падставіць плячо і дапаможа! Хто ж мог падумаць, што сярод кампаніі блукае воўк у авечай шкуры, для якога слова «сябар» нічога не значыць...

**Алена КЕДА,**
*г. Мінск.*






Алег КАРПОВІЧ.




*Прывітанне, дружа Вожык!*

Амаль усе госці нашай сталіцы з захапленнем адзначаюць яе чысціню. Аднак усё радзей Мінск называюць зялёным горадам. Шкада, бо раней гэты эпітэт заўсёды ўзгадваўся турыстамі.

Вось, напрыклад, так змяняўся воблік Прывакзальнай плошчы з 1974 года і да нашых часоў. Як вы лічыце, ці на карысць гэтыя метамарфозы? Я мяркую, што з такімі тэмпамі Мінск хутка ператворыцца ў сапраўдныя каменныя джунглі. Прыбраныя, сучасныя і без зеляніны. Як вам такая перспектыва?

Магчыма, і ў вас ёсць падобныя прыклады. Дасылайце іх у «Вожык», можа, пасля такой дэманстрацыі людзі задумаюцца, што перамены не заўсёды даводзяць да дабра.

**Алесь МІНСКІ,**
*г. Мінск.*



Фотакалаж Ганада ЧАРКАЗЯНА




Пётр КОЗІЧ.




Вікенцій ПУЗАНКЕВІЧ і Аляксандр КАРШАКЕВІЧ.



# КАНДРАТ-ШТУКАР

*Быль*

Неяк вырашыла я забегчы ў госці да цёткі Фаіны. Яна мне хоць і не родная, але лічым мы сябе сваякамі. Тая якраз завіхалася на кухні і гатавала абед.

– Прывітанне, Аленка! – абрадавалася цётка Фаіна. – Добра, што зайшла, хутка есці будзем. Складзеш нам кампанію?

Як можна было адмовіцца, калі па ўсёй хаце вітаў смачны водар тушанай бульбы з грыбамі. Захацелася пакаштаваць апетытныя прысмакі.

– Кандрат! – гучна паклікала цётка мужа. – Куды ты дзеўся? Есці ідзі! – крыкнула яшчэ раз, але ніхто не адказаў. – Ну, я табе зараз! – пагразіла жанчына і хацела ісці па мужа, як той раптоўна з'явіўся.

– Чаго ты крычыш? Я не глухі. О, прывітанне, Аленка!

Я павіталася з дзядзькам і ўзяла талерку, каб накласці ежу.

– Фаіначка, нешта не хачу есці, – паспрабаваў адмовіцца дзядзька Кандрат. – Апетыту зусім няма!

– Ці не захварэлі? – занепакоілася я.

– Каб усё так проста было! Гэта ж ён да свята рыхтуецца, аж есці няма калі! – адказала за мужа цётка Фаіна.

– А якое свята будзе?

– Дзень дурня! Першага красавіка! – засмяялася кабета.

– І як да яго рыхтавацца? – здзівілася я.

– Разумееш, Аленка, з кожным годам падманваць сяброў становіцца ўсё складаней! – пачаў тлумачыць дзядзька Кандрат. – Усе ведаюць, што я вялікі аматар першакрасавіцкіх жартаў. Усіх падману, а сам не паддамся! З мінулага свята няма мне спакою – ламаю галаву, што б такое прыдумаць!

– Ты раскажы пра леташнія жарты! – папрасіла цётка мужа.

Дзядзька ўздыхнуў, укінуў у рот кавалак бульбіны і пачаў:

– Цяжка стала сяброў падманваць, што ні кажы – не вераць. Таму вырашыў я цэлую камбінацыю пабудаваць: падгаварыць Рыгора, каб разам абдурыць Эдзіка, а з Эдзікам дамовіўся Рыгора падмануць! І вось першага красавіка прыйшлі мы з Рыгорам да Эдзіка. Я сказаў:

– Эдзік, бяжы на пошту, табе бандэроль з Віцебска ад сястры прыйшла!

– Маніш! – не верыў той.

– Праўду кажа! – пацвердзіў Рыгор. – Мая ж жонка на пошце працуе, яна мне пра тваю бандэроль яшчэ ўчора вечарам казала.

– Не маніце? – сумняваўся нам Эдзік.

– Не! – у адзін голас адазваліся мы.

– Добра, пабягу тады забіраць! – згадзіўся наш сябар.

У гэты момант я падміргваю Эдзіку, даю сігнал, і ён кажа Рыгору:

– Я раніцай Яшку Бушэвіча бачыў. Ён казаў, што абяцаў табе каністру бензіну прадаць. Так?

– Сапраўды, ужо некалькі месяцаў чакаю! – узрадаваўся той.

– Дык імчы хутчэй да яго! – параіў Эдзік. – Яшка казаў, што калі не прыйдзеш, то Бараноўскаму прадасць.

– Праўда? Не жартуеце? – падазрона спытаў Рыгор.

– Ці ж так падманваюць? – у адзін голас адказалі мы.

Рыгор паляцеў да Яшкі. Мне заставалася дачакацца, калі Эдзік на пошту пабяжыць. Ён ужо і апрануўся, і боты ўздзеў, а калі ў сенцы выйшлі, пляснуў сабе па лбе:

– Ой, ледзь не забыўся! Не магу я на пошту пайсці! У цешчы маёй, Мікалаіхі, дзверы зламаліся, а я абяцаў сёння другія прынесці. Прыйдзецца заўтра па бандэроль ісці.

– Як гэта заўтра? – занепакоіўся я. – Сёння ідзі! А дзверы пасля занясеш!

– Цёмна будзе. Ды і цешча чакае.

Бачу я, што мая задума зараз праваліцца. Таму прапанаваў:

– Добра, Эдзік, дапамагу табе! Ты на пошту ідзі, а я дзверы тваёй цешчы сам занясу.

– Вось дзякуй, сябра Кандрат! Яны не такія ўжо і цяжкія, ды і Мікалаіха абяцала насустрач з тачкай выехаць. Хоць да суседняй вёскі, да Альхоўкі, не так ужо і далёка.

Узяў я тыя дзверы і пайшоў да Эдзікавай цешчы. Іду і ўглядаюся, калі тая насустрач з тачкай выйдзе. Так і не дачакаўся! Стаміўся, сем патоў сышло, пакуль дацягнуў.

Увайшоў у двор, а там старая Мікалаіха на той тачцы сядзіць і войкае:

– А маё ж ты дзіцятка! А Эдзік дзе?

– На пошту пайшоў, а я вам дзверы прынёс.

– Дзякуй, сынок! Я сабралася насустрач ісці, але спіну скруціла так, што пляснулася на тую тачку, а ўстаць сама не магу!

– Зараз, цётка Мікалаіха, вам дапамагу! – кінуўся я да старой.

Паставіў дзверы каля плота, асцярожна ўзяў старую на рукі і панёс у хату. Толькі ўвайшоў у кухню, як Мікалаіха спрытна саскочыла з рук на падлогу і крычыць:

– З першым красавіка цябе, Кандратка! Вылечыў ты мне спіну!

Я сябе па лбе пляснуў і засмяяўся. А тут з-за печы выходзяць Эдзік і Рыгор:

– Ну, сябра, са святам цябе! Добра ты прыдумаў і пра бандэроль, і пра бензін, але мы не паверылі, а вось цябе так абдурылі!

– Не патрэбны мне тыя дзверы! – з рогатам патлумачыла Мікалаіха.

– А навошта ж я цягнуў...

– ...як дурань дзверы? – закончылі за мяне сябры. – Малайчына, Кандрат-штукар!

Мянушка «Штукар» да мяне з таго часу і прыклеілася. Вось з таго самага дня няма мне, Аленка, спакою. Усё думаю, як сяброў падмануць.

Паеў дзядзька і пайшоў па двары швэндацца.

– Думай-думай, Кандратка-штукар! – усміхнулася цётка Фаіна. – Я для цябе жарт падрыхтавала ўжо!

**Кацярына ХАДАСЕВІЧ-ЛІСАВАЯ,**
*г.п. Ждановічы.*

## АНЕКДОТ

Жонка рыхтуе яечню на сняданак. Раптам на кухню забягае муж:

– Асцярожна! Пакладзі больш алею! Божа мой, ты смажыш адразу два яйкі? Занадта шмат! Перавярні іх! Перавярні іх зараз! Дзе алей? Трэба больш алею! Хутчэй, зараз яны прыліпнуць! І асцярожна, асцярожна!

Жонка здзіўлена глядзіць на мужа:

– Ды што з табой сёння ?! Ты лічыш, што я не магу прыгатаваць звычайную яечню?

Муж спакойна тлумачыць:

– Я хацеў паказаць табе, што я адчуваю, калі ваджу машыну...




Вікенцій ПУЗАНКЕВІЧ
і Аляксандр БАГДАНОВІЧ.




Уладзімір ЧУГЛАЗАЎ.




Алег ПАПОЎ.





Вікенцій ПУЗАНКЕВІЧ
і Аляксандр БАГДАНОВІЧ.




Аляксандр КАРШАКЕВІЧ.

# ВІРТУАЛЬНЫЯ ТАНЦЫ



Санаторый, нібы вулей:
Танцы да знямогі.
Лечаць музыкай дзядулі
Сэрцы, рукі-ногі.

Скача польку дзед з дзяўчынай,
Аж дрыжыць падлога.
Дзе ж малодшыя мужчыны?
Не відаць нікога.



Баяністы танец белы
Для красунь зайгралі.
«УКантакце» кавалеры
Без надзей прапалі.

У смартфонах — сайты-чаты.
Там крутыя шанцы,
Віртуальныя дзяўчаты,
Мора, сонца, танцы...

**Галіна НУПРЭЙЧЫК,**
*г. Клецк.*




Пётр КОЗІЧ.



# Ключы

*З натуры*

Суседзяў трэба калі не любіць, то хаця б паважаць і вітацца. Інакш можа адбыцца вельмі непрыемная гісторыя. Такая, як у адным правінцыйным гарадку, які вельмі падобны да Пастаў.

У тыпавой шматпавярхоўцы на чацвёртым паверсе, на адной лесвічнай пляцоўцы, жылі па-суседстве сям'я заможнага мясцовага начальніка і бабулька-пенсіянерка. Розны сацыяльны статус, выхаванне і жыццёвы вопыт стваралі напружаную абстаноўку. У вачах начальніка бабулька выглядала мікробам, які распускае плёткі і шкодзіць паўсюль, дзе з'яўляецца. А пенсіянерцы заможны сусед уяўляўся драпежнай пачварай, якая крадзе чужую маёмасць і падманвае людзей. Зразумела, маючы такія думкі, яны стараліся нават не глядзець адзін на аднаго і вітацца як мага радзей.

І вось аднойчы ў выхадны дзень напрыканцы зімы начальнік з сям'ёй і сябрамі вырашыў паехаць у лес на шашлыкі. Настрой быў добры, бо толькі што ў кватэры закончыўся рамонт: паставілі новыя пластыкавыя вокны, металічныя дзверы. Гаспадар, выходзячы з жылля, ціхенька напяваў песеньку, як раптам за спінай пачуў яхідна-рыпучае «здрасце». Ад нечаканага вітання суседкі-пенсіянеркі мужчына ажно здрыгануўся. Ён выціснуў у адказ «добры дзень», падумаў, што такое спатканне не да дабра, і хуценька пабег уніз па лесвіцы.

Але далей дзень, як і планавалася, прайшоў весела і бесклапотна. На прыродзе каталіся з горкі, пілі і елі розныя прысмакі, танцавалі і весяліліся.

Вечарам прыехалі дамоў, падняліся на свой чацвёрты паверх. Гаспадар палапаў па кішэнях, але ключоў не знайшоў! І раз, і другі ператрос куртку, байку, штаны. Затым кінуўся подбегам у машыну, пераглядзеў бардачкі, але і там нічога не было... Вырашыў, што вываліліся на прыродзе, дзе так цудоўна адпачывалі. Але як знайсці ў снезе? Ідэя прыйшла імгненна – патрэбен металашукальнік. Гаспадар абзваніў знаёмых і хутка выйшаў на патрэбнага чалавека. І ўжо праз нейкія паўгадзіны на месцы пікніка ў промнях вячэрняга сонца група мужчын поўзала па снезе, асцярожна яго разграбаючы і прыслухоўваючыся да піску металадэтэктара. Але ключоў нідзе не было.

Вярнуліся дадому, дзе металічныя дзверы надзейна трымалі кватэру пад замком. Вырашылі, што трэба лезці праз акно. Толькі як трапіць на чацвёрты паверх?

Гаспадар пазваніў начальніку мясцовага аддзела па надзвычайных сітуацыях, папрасіў машыну з доўгай лесвіцай, каб дабрацца да акна. Калі тая пад'ехала да шматпавярховага дома, то каля яе адразу сабраўся натоўп мясцовых жыхароў, каб паглядзець, што будзе далей. Суседка-пенсіянерка разам з іншымі зацікаўлена назірала за тым, як па лесвіцы да акна падняўся выратавальнік, разбіў шкло і, адчыніўшы дзверы знутры, выйшаў на вуліцу. Гаспадар радаваўся, што праблема нарэшце вырашылася, і шчыра дзякаваў выратавальнікам.

У гэты момант да яго падышла суседка-пенсіянерка і сваім яхідна-рыпучым голасам спытала:

– Скажыце, а гэта не вы раніцай згубілі? – і працягнула далонь, на якой ляжалі ключы ад кватэры.

**Ігар ПРАКАПОВІЧ,**
*г. Паставы.*



# Пасцельныя сцэны




Пётр КОЗІЧ.







Аляксандр ПЯТРОЎ х 2.

## Просьба

Любавацца гатовы табою,
Як «Сіксцінскай мадоннаю» той,
Як прыродай вясновай парою,
Серабрыстаю гладдзю марской.

Я любуюся станам, фігурай,
Прыцягальнай таемнай красой.
Толькі вочы заплюшчу-прыжмуру –
Бачу вобраз твой перад сабой.

Захапляюся і не хаваю
Гэтых шчырых пачуццяў штодня.
На астатніх жанчын не зважаю –
За цябе прыгажэйшай няма.



Ды, як часта бывае на свеце,
Кожны сноп мае колас ліхі.
Пакланяўся б табе я, кабеце,
Калі б быў ад дзяцінства... глухі.

Толькі гэткім наўрад ці ўжо буду...
Пацярпі, на мяне не бурчы!
Ты – красуня, ты – цуд сярод цудаў,
Заставайся ж такой – памаўчы!

**Уладзімір ГРЫШЧАНКА,**
*г. Гомель.*




**Яўген КАРШУКОЎ**

# Памірыў

*Гумарэска*



Я не будаўнік і не магу дакладна растлумачыць, чаму такая дрэнная гукаізаляцыя ў нашым доме. Тут я нават гатовы паспрачацца з самым дасведчаным інжынерам. Дастаткова паслухаць, як спрачаюцца мае суседзі: амаль кожны дзень чуваць іх сварлівыя галасы за сцяной. І так выразна, так гучна, нібы з тэлевізара ці нейкі шэкспіраўскі спектакль разыгрываецца...

– Навошта я сваё жыццё з тваім звязаў! – чуецца мужчынскі бас.

– А я... А я, дурніца, я куды глядзела?! – лямантуе жаночы голас. – Ты ваўкалак, страшны людаед!

Адно шкада, што саміх герояў не бачыш, а толькі па шумавым афармленні так цудоўна ўяўляеш, што там у суседзяў робіцца.

– Іван, прачніся! – тоўхае ў бок мяне ноччу жонка. – Канцэрт пачаўся... Здаецца, Ірка ў яго вазай запусціла...

Ды я і сам чую – б'ецца шкло. З лёгкім тонкім звонам.

– А гэта што? – спалохана ўздрыгваю я, пачуўшы як нешта цяжкае з бразганнем грукае ў сцяну нашай спальні.

– Патэльня, – беспамылкова вызначае жонка. – Гэта ўжо Эдзік, яго рука...

І адразу – дзікі ваяўнічы віск. Тут ужо і я здагадваюся: Ірка пайшла ў наступ. Хто пераможа – невядома. Толькі назаўтра пры сустрэчы выявіцца пераможца па колькасці сінякоў і драпін на твары.

– Не, так далей немагчыма, – кажа мне жонка. – Нервы не вытрымліваюць. Трэба з імі пагаварыць. Маладыя, павінны зразумець. Схадзі паміры іх. Чуеш?

І вось назаўтра, пасля работы, апрануўшыся ў святочны касцюм і захапіўшы на ўсялякі выпадак бутэльку віна, пайшоў да суседзяў.

На парозе сустракае мяне Ірка, мажная, круглатварая маладзіца. Яна ніколькі не здзіўляецца. Мая, відаць, папярэдзіла яе ўжо.

– Ну, дзе твой арол, дома? – чамусьці падміргваю я ёй і ўрачыста стаўлю на стол бутэльку. – Гэй, Эдзік, дзе ты там? Давай сюды, пагаворым...

У кухню сунецца пануры Эдзік. Жардзіна жардзінай, сапраўдны пудзіла, як на ім яшчэ той пінжак трымаецца. Ён моўчкі садзіцца насупраць мяне і, пакутліва пазіраючы ў акно, чакае, што я скажу. А мне і самому карціць хутчэй скончыць гэту непрыемную місію, памірыць іх. І я, адкінуўшы ўбок усякую дыпламатыю, кажу:

– Дык вось, мае залатыя, паслухайце, што я вам скажу... Не падабаецца мне, як вы жывяце, быццам кот з сабакам. Няўжо вам не абрыдла лаяцца? Што вам замінае жыць мірна ды спакойна? Маўчыце? Дык я вам сам адкажу: задужа ганарыстыя вы!

Яны маўчаць, вінавата апусціўшы галовы. А я, падбадзёраны іх маўчаннем, сяку з пляча:

– А калі папраўдзе, дык чым ганарыцца вам, мае залатыя? Пачнём з цябе, Эдзік. Хто ты? Прафесар, доктар, акадэмік? Так, звычайны вадзіцель тралейбуса, і зарплата звычайная. І з выгляду не прыгажун. Бачыў карціну пра Дон Кіхота? Во-во, ты гэткая ж... трэска. Яшчэ рабаціннe на твары. Не ведаю, як толькі за цябе замуж пайшла Ірка.

Кідаю позірк у бок Іркі. Яна задаволена ўсміхаецца і нібы ўсім сваім выглядам кажа: «Ну, што, з'еў, мужанёк?» Пазіраю на Эдзіка, а той гнеўна глядзіць на мяне...

– А можа, ты гаспадар руплівы, Эдзька? Можа Ірцы футра заморскае прыдбаў? Здаецца, не бачыў я ў яе такой вопраткі...

Эдзік знішчаны маральна, толькі бездапаможна скрыгоча зубамі, а ў Іркі на вачах выступілі слёзы. Эдзіка таксама шкада...

— Ну, не злуй, залаты мой, — суцяшаю я яго. — Не трэба. Ведай, хто ты і даражы сваёй жонкай, не лайся. Яна ў цябе — не горшая за іншых.

Тут я спыняюся і пільна пазіраю на зусім расчуленую Ірку.

— Дарэчы, я сказаў, што яна не горшая за іншых. Але ж я не сцвярджаю, што і лепшая. Так што і ты, Ірка, не задзірай дужа нос. Ты таксама далёка не Афрадзіта. Аглобіна! А ўжо пра твае здольнасці гаспадыні і казаць не хочацца: ці накарміла ты калі-небудзь свайго мужа смачным абедам? Маўчыш? Усе ведаюць, што як пачнеш варыць ды смажыць, дык гарэлым на ўвесь дом смярдзіць. Затое горла маеш ого-го якое! Ніхто не перакрычыць!

«Ну, усё! Выдаў. Цяпер прыкусяць языкі», — прамільгнула ў галаве думка.

Але што гэта? З двух бакоў да мяне пагрозліва сунуцца Ірка і Эдзік. І адзін і другі пачырванелі, аж задыхаюцца ад злосці, размахваюць рукамі, крычаць нешта.

— Залатыя мае, супакойцеся, — разгублена прашу я і на ўсякі выпадак адступаю да дзвярэй. — Не крычыце так!

— Ты сам крычыш! Кожны дзень крычыш! Чуем і мы твой галасок. Скажы, старое боўдзіла, хіба не ты ўчора гарлапаніў за сцяной?

— Дык я ж на сына...

— На сына, на жонку, якая розніца? Папомні нашы словы, калі будзеш драць горла, мы ў домакіраўніцтва заявім.

Я выбег з кватэры. Калі азірнуўся, убачыў суседзяў, якія, абняўшыся, злосна рагаталі мне ўслед.

Ну вось, памірыў... А, ліха з ёй, гэтай гукаізаляцыяй!

*«Бібліятэка «Вожыка»,
1982 г.*



# Хітры Барсук



*Байка*

З Галоўнай Пушчы давялі
У кожны лес аднойчы план:
За год каб у парадак прывялі
Усе па пяць лесапалян.
Крывыя сухастоіны — прыбраць!
Альтанкі ўстанавіць для адпачынку!
Гасцей шаноўных
Каб было дзе сустракаць —
Зялёным мохам выслаць кожную лагчынку!
...У лесе — рух, у лесе — гам,
Стараюцца адзін перад адным.
Кіпіць работа тут і там,
Ажно курыць над пушчай дым.
Барсук баяўся горшым аказацца
(Ён ведаў гнеў Цара, яго натуру).
Пайшоў на хітрыкі: замест працы
Ён памяняў палян інфраструктуру:
З бярэзніку ў дуброву перанёс
Пянькі і мох, кусты, грыбочкі;
Іголкі выграбшы, у ельніку натрос
З рачнога берага жаўцюткага пясочку.
Вось так і выканаў свой план.
Пасля ж усё на месца верне.
А на паперы — рост лесапалян,
Як тых снапоў са жмені зерня.

***

У справаздачах лічбы скачуць —
Аптымістычны рост такі.
Але нярэдка справы плачуць,
Калі за іх бяруцца барсукі.

**Віктар САБАЛЕЎСКІ,**
*г. Узда.*




### Аляксандр БЫКАЎ

## Адказ Пегаса

*Мой мілы Пегасе,*
*Ты дзе свае крылы згубіў?*

*Дзмітрый ПЯТРОВІЧ*

Мяне ты пытаеш, дзе я свае крылы згубіў?
Ну як жа не сорамна, мой даражэнькі паэце?!
Увосень аднойчы на дачу мяне запрасіў:
Маўляў, ты падскоч, пасумуем аб страчаным леце.

У ціхай альтанцы – дарогай сабе я ўяўляў, –
Пад добрую чарку, са скваркай і бульбаю сопкай.
А ты, вераломны, адразу мяне зацугляў
І моўчкі павёў на быльнёгам зарослыя соткі.

Цяпер дакараю сябе: ну, з якой дурнаты,
З якое блазноты на дачу на тую насіла?!
І што ўжо пытацца цяперака: «Дзе твае крылы?»,
Калі той парой не адкінуў я ледзь капыты!



### Нічыпар ШЭРАНЬКІ

## Небыліца пра спадніцу

*Калі ізноў наведаеш сталіцу?*
*Я ўжо забыўся пра вачэй агонь*
*І як твая мадняцкая спадніца*
*Агнёвіць, апякаючы мне скронь.*

*Мікола ШАБОВІЧ*

У пошуку сапраўднага натхнення
Іду не да гаёў, лугоў, крыніц,
А падаю заўзята на калені
Прад зыркаю агнёвасцю спадніц.

Ды вось твая мадняцкая спадніца,
Што рупна тры гады асфальт мяла,
Сказала ў рэшце рэшт: «Бывай, сталіца!» –
І ў нейкі кут мядзведжы адбыла.

Памкнуўся ўслед. Спыніўся на паўкроку.
Карыў сябе ізноў: «Сякі-такі!..»
Гарэлі гэтак скроні ад апёку,
Што збляклі-ўсохлі ўсе мае радкі.



### Аляксандр БЫКАЎ

## Гісторыя і геаграфія

*Не бачымся, не чуемся даўно –*
*Гісторыя такая з геаграфіяй,*
*Такое вось пачуццяў палатно.*
*У кожнага, лічы, свая парафія.*

*Мікола ШАБОВІЧ*

Хацела калісь цела і магло,
Не раз быў госцем у тваёй парафіі...
Звычайная гісторыя – было!
А дзе было – вось гэта геаграфія!



**Андрэй СІДАРЭЙКА**

# *Не дапісаў...*



*Гумарэска*

Журналіст раённай газеты Пятроў прыехаў у калгас, дзе сустрэў механізатара Сідарава.

— Не ўсё вы, Мікалай Іванавіч, напісалі, — пачаў герой. — Не расказалі, чаму я перадавіком стаў. У той час у Яшкіным трактары матор сапсаваўся. Тры дні на рамонце стаяў. А мне старшыня загадаў працаваць за дваіх, бо больш не было каму. Вось пра такую маю адказнасць, прафесіяналізм і сумленне трэба напісаць! Каб усе ведалі, што Сідараў Уладзімір Пятровіч гатовы працаваць за некалькіх чалавек адразу!

У наступны раз Пятроў наведваў адно прадпрыемства горада. Там ён сустрэў знаёмага перадавіка Сёмачкіна.

— Я ваш артыкул захоўваю, — прамовіў перадавік. — Над ложкам у рамцы вісіць. Усім матэрыял падабаецца. Але чаму вы не распавялі маю гісторыю больш падрабязна?

Пятроў папярхнуўся ад такой заявы.

— Ведаеце, чаму я перадавіком стаў? — таемна спытаў Сёмачкін. — Дырэктар на сходзе паабяцаў: «Хто перавыканае план, таму будзе прэмія — пуцёўка на Канары». Я і пастараўся, але адпачынак мне так і не далі. Вось пра такую даверлівую душу Сёмачкіна Паўла Аляксандравіча і трэба было напісаць!

Трэцім разам журналіст зазірнуў у раённы аддзел надзвычайных сітуацый. У калідоры яму сустрэўся выратавальнік Петушкоў — таксама адзін з герояў газеты.

— Цікавы матэрыял атрымаўся, — пахваліў Пятрова мужчына. — Але не ўсё вы напісалі. Ведаеце, чаму я выратавальнікам стаў? Ды таму, што ў дзяцінстве любіў усім дапамагаць. Ката з дрэва дастаць — калі ласка, залезці на самы вільчык даху, каб антэну замацаваць, — толькі пакліч. Вось і трэба было напісаць: з малых гадоў Петушкоў Артур Міканоравіч трэніраваў спрытнасць, вынослівасць, загартоўваў арганізм. А назву даць «Нялёгкае дзяцінства будучага героя».

«Усе мяне вучаць, як падаваць артыкулы! — ускіпеў у думках журналіст. — Што ж, добра, напішу ўсю праўду пра незадаволеных герояў!»

Вечарам ён сеў за стол і напісаў фельетон «Адваротны бок медаля». У ім узгадвалася шмат чалавек. У тым ліку і перадавік-механізатар, якога перад пасяўной вазілі на чарговую кадзіроўку, бо дагэтуль ён усю зіму на працы не з'яўляўся. І абібок-токар, які працаваў за пуцёўку на Канары. І выратавальнік, які марыў толькі праславіцца, а не выконваць сумленна свой абавязак. Усім у фельетоне знайшлося месца. Бо дагэтуль і ў іншых жанрах публіцыстыкі шмат цікавых момантаў гублялася, не агучваліся некаторыя акалічнасці.

Фельетон выйшаў у свет. З таго часу сапраўдныя і будучыя героі не вучылі журналіста, пра што трэба пісаць. І расказвалі Пятрову толькі неабходныя факты.

*Рэчыцкі раён,*
*агр. Каравацічы.*




Вікенцій ПУЗАНКЕВІЧ і Аляксандр БАГДАНОВІЧ.




Вікенцій ПУЗАНКЕВІЧ і Аляксандр КАРШАКЕВІЧ.











Уладзімір ЧУГЛАЗАЎ x 4.

# Прыкметы і кабеты





– Скажы, сусед, што за прыкмета?
Свярбіць мне левая рука.
Няўжо перападзе манета?
Адкуль жа возьмецца той скарб?

Сусед адказвае: «Спакою
Сягоння нос мне не дае.
Ад ранку чухаю рукою,
Што за прыкмета, грэць яе!»

Пагаварылі і забылі,
Бо трэці падышоў сусед
І, пальцам пстрыкнуўшы па шыі,
Сяброў паклікаў на абед.

Ім смачна елася, пілося,
Была гарэлка да катлет...
Ды жонкі іх, Анэля з Зосяй,
Упільнавалі той банкет.

Адзін з распухлым носам ходзіць,
Другі – з падрапанай рукой.
Прыкметы, моцныя ў народзе,
Далі непрадказальны збой.

Ты можаш верыць у прыкметы,
Руку заўзята чухаць, нос...
Калі ўмяшаецца кабета –
Глядзі, каб не дайшло да слёз!

**Валянціна БАБКО-АЛЯШКЕВІЧ,**
*Салігорскі раён,*
*в. Радкава.*




Чытачы «Вожыка» неаднаразова задавалі пытанне, тэлефануючы ў рэдакцыю: ці ёсць у часопіса, акрамя масцітых і вядомых майстроў карыкатуры, маладыя, гатовыя прыйсці ім на змену? Знаёмцеся: мастачка Анастасія СКАРКО, якая малюе па зададзеных тэмах, і тэміст Міхась СТЭФАНЕНКА, які прыдумвае сюжэты для карыкатур. Гэта адзін з маладых і таленавітых творчых тандэмаў часопіса «Вожык».














Анастасія СКАРКО і Міхась Стэфаненка х 3.

## Мантажніца

Паглядзела з-пад рукі
На акенцы дружныя.
– Эх, каб мне пакой такі,
Ўжо была б замужняю!

На двары – базар-садом,
Людзі аж не месцяцца:
Абжываць высотны дом
Будуць тут равесніцы.

А дзяўчына, як-ніяк, –
Знатная мантажніца.
З ёю вецер-халасцяк
Па-блазенску дражніцца.

Ці зіма, ці крыгаход –
Міма хлопцы хвацкія.
Цягнуцца каторы год
Будні інтэрнацкія.



На адной скаварадзе
Ўсё яечня пляскае...
І чаму ж ён не ідзе –
З ручнікОм і пляшкаю?

**Мікалай ГЛЕБ,**
*Ляхавіцкі раён,*
*в. Падлессе.*

# Прэміяльная пляшка

*З натуры*

Вясна сёлета прыйшла позна, таму як толькі сонца пачало па-сапраўднаму прыграваць і глеба адтала, Чураковы ў першы ж выхадны накіраваліся на сваю фазэнду. За зіму спраў назбіралася нямала, і яны адразу ўзяліся за працу. Адам абразаў галіны дрэў, а Марыя наводзіла парадак у хаце. Праз нейкі час яна падышла да мужа і сказала:

– Ведаеш, глеба ўжо адтала. Восенню ты яе перакапаць не паспеў, таму нядрэнна зрабіць гэта сёння.

– Ты што, яшчэ рана! – адказаў Адам. – Вось праз тыдзень ці два будзе ў самы раз.

– Хто ведае, якое тады будзе надвор’е. Тым больш, што месяцовы каляндар раіць менавіта ў гэты дзень пасеяць радыску і зеляніну.

– Не, усё ж давай не сёння. Да таго і паясніца ў мяне разбалелася.

– Ну, глядзі сам, – прагаварыла Марыя, потым хітра ўсміхнулася і нечакана спытала: – А сто грамаў хочаш?

Адам недаверліва паглядзеў на жонку:

– Гэта не перашкодзіла б, але ж я ведаю, што з сабой у нас гарэлкі няма, а крама да лета не працуе.

– Памятаеш, восенню ты і твой сябар Сцяпан Ганне Вінакуравай плот адрамантавалі? – нагадала жонка Адаму.

– Ну, была такая справа, і што з таго? – не разумеў нічога той.

– А потым вы ў лес пайшлі ў грыбы?

– Так, і нарэзалі шмат апенек ды зялёнак, – успомніў Адам.

– Ага, канешне, некалькі жменек нейкіх паганак, якія я выкінула! Затое самі дзесь нарэзаліся добра. Дык вось, пакуль вы бадзяліся, Ганна вам у падзяку пляшку гарэлкі прынесла.

– Ну, і дзе ж яна? – з нецярпеннем запытаў мужчына.

– Дык калі вы ўжо ледзьве на нагах стаялі, я бутэльку закапала ў гародзе. Не дадому ж яе везці!

– І ў якім месцы ты яе схавала?

– Забылася, – адрэзала Марыя. – Калі хочаш выпіць, шукай сам! – і пайшла ў хату.

Адам, добра ведаючы сваю жонку, ёй паверыў. Працаваць ён не вельмі жадаў, але прага да гарэлкі перамагла. Мужчына ўзяў рыдлёўку і прыняўся за справу. Праз чвэрць часу за яго спінай пачулася:

– Куды ты так спяшаешся?

Адам азірнуўся і ўбачыў Сцяпана, які з цыгаркай у роце з цікаўнасцю назіраў за мітуснёй сябра.

– Памятаеш, мы восенню ў Ганны Вінакуравай плот папраўлялі? Яна тады гарэлку паабяцала.

– Так, але пры чым тут твой агарод?

– Дык вось, пакуль мы па лесе бадзяліся, яна нам тую бутэльку прынесла, а Марыя гарэлку на гародзе схавала. Толькі не памятае, дзе! А можа, і ведае, але не хоча казаць...

– На тваю жонку гэта падобна! – Сцяпан пачухаў патыліцу і спытаў: – Дык што рабіць?

– Бяры другую рыдлёўку і далучайся да мяне.

Справа пайшла значна хутчэй. Часта здавалася, што вось яна, жаданая мэта! Але кожны раз мужчыны выкопвалі з зямлі то кансервавую бляшанку, то кавалак шыферу ці шкла. Калі раззлаваныя сябры скончылі сваю дарэмную працу, на ганак выйшла Марыя і прамовіла:

– Як поспехі, землякопы?

– Сумлення ў цябе няма! – закрычаў Адам. – Развяла нас, як хлопцаў малых!

– Не развяла, а разыграла! Успомні, які сёння дзень?

– Гэта ж 1 красавіка! Ну, даражэнькая, і падлавіла ты нас, – зарагатаў Сцяпан.

– Не сумуйце, хлопцы, – усміхнулася Адамава жонка. – Я бульбы з салам насмажыла, агуркоў салёных дастала. А як прэмія за вашу самаадданую працу на стале вас чакае запаветная пляшка, якую я ўжо астудзіла.

– Ого, добрая падзяка, заўсёды б так! – сказаў з усмешкай Адам.

Сябры засмяяліся і бадзёра пайшлі ў хату.

**Валерый КАВАЛЬЧУК,**
*г. Гомель.*



Мікола ГІРГЕЛЬ.




# «ПРАДАЎЦЫ ЖЫВОГА ТАВАРУ»

*Міні-фельетон*

А вы верыце ў перасяленне душ? Што ў мінулым жыцці маглі быць багатым князем, знакамітым пісьменнікам, таленавітым музыкантам ці звычайным працавітым селянінам? Некаторыя людзі ўпэўнены: гэта тэорыя праўдзівая. І любы чалавек у ходзе такіх пераўвасабленняў дзесьці глыбока ў душыназапашвае розныя ўменні, рысы характару і шэраг іншых якасцей. А значыць, у розныя моманты станаўлення асобы гэты вопыт можа ўзгадацца.

Скажыце, як яшчэ можна патлумачыць, што ў нашай з вамі сучаснасці ёсць такое паняцце, як рабаўладальніцтва? Няйнакш людзі, якія даўней лічылі чалавека за простую рэч, успомнілі былы досвед. Але што кіруе такімі злачынцамі, калі ўсім навокал вядома: гандаль людзьмі забаронены ўжо больш за 150 гадоў? Можна выказаць шмат здагадак, але праўда адна — амаль ніхто не застрахаваны ад такіх «прадаўцоў жывога тавару».

Так, з 2002 года зафіксавана больш за тры тысячы выпадкаў, калі беларусы станавіліся сапраўднымі рабамі. Але гэтыя звесткі ўключаюць толькі тых пацярпелых, якіх праваахоўныя і сацыяльныя службы змаглі ідэнтыфікаваць. Рэальная колькасць нашых землякоў, якія пацярпелі ад гандлю людзьмі, можа быць зусім іншая. Бо далёка не кожны адносіць сябе да ахвяр, мяркуючы, што сітуацыя, якая адбылася з ім, — адзінкавы выпадак, а не частка глабальнай праблемы. Яшчэ больш людзей баяцца звяртацца па дапамогу, бо не хочуць агалоскі, асцерагаюцца пераследавання крыўдзіцелямі ці проста не ведаюць сваіх правоў.

Паводле статыстыкі, у 2000-х гадах найбольш распаўсюджаным відам эксплуатацыі людзей была сексуальная. Але паступова, пачынаючы з 2011 года, павялічвалася колькасць выпадкаў працоўнага зняволення, адпаведна, ахвяр-мужчын стала больш, чым жанчын.

Беларусы часцей за ўсё пакутуюць ад гандлю людзьмі ў Расіі, Польшчы, Турцыі, ААЭ, Германіі і г.д. Зразумела, рабаўладальнікі аддаюць перавагу маладым і моцным мужчынам і жанчынам, сярэдні ўзрост якіх 25—35 гадоў.

Згадзіцеся, што дзіўна чуць пра такую праблему ў час вялікіх тэхнічных дасягненняў. Але яна ёсць, і гэта трэба прызнаць. «Прадаўцы жывога тавару» нікуды не зніклі. Застаецца толькі спадзявацца, што ў наступным сваім пераўвасабленні ў іх будзе вельмі складанае жыццё. Своеасаблівая адплата за грахі супраць чалавечай асобы.

**Наталля КУЛЬГАВАЯ.**




Аляксандр КАРШАКЕВІЧ.




Султана спыталі:
– Чаму ў вас ужо колькі гадоў адна і тая ж сотня наложніц?
– Я адналюб!

* * *

Муж пытаецца ў жонкі:
– Што мне падарыць табе на дзень нараджэння?
– Пакуль не ведаю, – адказвае тая.
– Добра! Даю табе на роздум яшчэ год.

* * *

Калі ты адчыняеш дзверы кату і той не хоча выходзіць, гэта значыць, што ён запускае ў пакой незнаёмца, якога бачыць ноччу ў цёмным пустым куце.

* * *

Знакаміты кінарэжысёр – маладой актрысе:
– Я запрашаю вас здымацца ў маёй новай карціне. Праз год абяцаю «Оскара»!
– А калі гэта будзе дзяўчынка?

* * *

На Захадзе таксама ёсць сур'ёзныя праблемы з дарогамі, проста іх хаваюць ад людзей пад тоўстым пластом асфальту.

* * *

У фразе «Зарплата вырасце з 1 красавіка» не хапае кропкі перад прыназоўнікам.

* * *

Як спыніць бойку двух сляпых? Трэба крыкнуць: «Стаўлю на хлопца з нажом!»

* * *

Разумееш, што жывеш у добрым раёне, калі бачыш сабак на прагулцы, апранутых лепш, чым ты.

* * *

Секс вельмі небяспечная рэч. Напрыклад, у СССР сексу не было. Але толькі варта было яму з'явіцца, знік СССР.

* * *

Парада гаспадыні: шруба, забітая малатком, трымаецца лепей, чым цвік, закручаны адвёрткай.

* * *

Вашы працоўныя дні праходзяць дрэнна, бо перад выхадам з дому вы забываеце прысесці на дарожку і выпіць на пасашок.

* * *

Абітурыент, які марыў стаць доктарам, не здаў уступныя экзамены і бліжэйшыя два гады будзе марыць стаць генералам.

* * *

Мяне так загартавала сямейнае жыццё, што я перастаў баяцца замагільнага.

* * *

Лепшы муж – касманаўт: заробак вялікі, камандзіроўкі па паўгады, а калі вяртаецца, то ўся краіна ведае.

* * *

Я люблю гатаваць сабак і дзяцей. Але ненавіджу расстаўляць коскі.

* * *

Фітнес-цэнтр. Немалады банкір спрабуе зганяць вагу пад кіраўніцтвам персанальнага трэнера. Раптам у залу заходзіць шыкоўная бландзінка. Банкір, аглядаючы доўгі шэраг трэнажораў, пытаецца трэнера:
– Том, якім з гэтых трынажораў лепей скарыстацца, каб прыцягнуць яе увагу?
– Я б рэкамендаваў банкамат у холе, сэр.

* * *

Самы страшны звер – гэта жаба, яна задушыла больш за палову насельніцтва зямнога шара.

**Даслала Ганна СІНІЦА,**
*г. Барысаў.*








* * *

Не хочацца ў памылках прызнавацца,
Ды мудрасць не прыходзіць к нам у дваццаць.



* * *

Не трэба, сяброўкі, сварыцца, злавацца,
Нямілых жанчын і сабакі баяцца.

Восьмы год кум абяцае:
З панядзелка піць кідае.



* * *

Хто ўвішна працуе штодня, гаспадарыць –
Не мае ахвоты на лаўцы пляткарыць.





* * *

Лягчэй дзяўчыну ўгаварыць,
Калі душа агнём гарыць.



* * *

Чым дагаджаць абы-каму,
Даверся лепей аднаму.

* * *

Хоць з выгляду Сямён і брыдкі,
Ды да дзяўчат ну вельмі прыткі.

* * *

Ці ёсць яшчэ такія кавалеры,
Што маюць ненахабныя намеры?



* * *

Як за цяжкую справу гуртам брацца,
На добры вынік можна спадзявацца.





* * *

Калі не хочаш атрымаць хандру ці стрэс,
Далей трымайся ад прасунутых «прынцэс».

* * *

Як рот бясконца разяўляць,
Туды вароны заляцяць.

**Даслала Людміла ЮШЫНА,**
*г. Гомель.*






Уладзімір ЧУГЛАЗАЎ x 2.

Карэспандэнтка на інтэрв'ю прыйшла адна. Ажыццявілася яе мара. Яна вельмі хацела задаць пытанні чалавеку, у якога раптоўна выраслі крылы.

**— Прадстаўцеся, калі ласка, і раскажыце, як усё пачалося.**

– Завуць мяне Аляксей Белавус, мне дваццаць восем гадоў, нарадзіўся і жыву ў Мінску, працую на заводзе малярам-трафарэтчыкам, жанаты, ёсць дачка. Неяк суботняй раніцай я адсыпаўся пасля цяжкага працоўнага тыдня, калі раптам прачнуўся ад парыву свежага ветру. Спаць ужо не змог. Таму падняўся і пасунуўся на кухню, каб зрабіць сабе і жонцы каву. Але ажно падскочыў ад крыку маёй любай. Яна тады ўбачыла, што ў мяне са спіны тырчаць празрыстыя крылы.

Але калі я займаўся спортам, гуляў са сваімі сябрамі ў валейбол, крылы зноў станавіліся моцнымі, яркімі, мне зноў хацелася лётаць.

**— Ці траплялі вы ў такія сітуацыі, з якіх без крылаў цяжка было б знайсці выйсце?**

– Шмат, усе і не ўспомніць! Зімой выцягнуў сябра, які праваліўся пад лёд на рыбалцы. Неяк злавіў дзіця, якое вывалілася з акна дзясятага паверха. Здарылася, што злётаў аднойчы ў аптэку па сардэчныя лекі для чалавека, які чакаў «хуткую дапамогу». Не раз цягаў на сабе параненых у медпункт на вытворчасці.

**— Аляксей, што ж потым здарылася? Куды падзеліся вашы крылы?**

– Нейкія мужчыны пазвалі дапамагчы ім у начной справе. Сказалі, што без маіх крылаў ім не абысціся.

# Крылы і капуста

*Іранеска*

**— Як вы сябе адчулі, калі сталі іншым чалавекам?**

– Нічога асаблівага. Настрой быў добры, цела напаўнялі сілы і жаданне зрабіць нешта карыснае для сябе і людзей.

**— Уяўляю, якое гэты шчасце, калі хочацца рабіць нешта карыснае! З крыламі, Аляксей, было зручна? Яны вам не заміналі?**

– Усё была цудоўна! Сям'я хутка прывыкла. Чатырохгадовая дачка з мяне не злазіла, прасіла пакатаць. Жонка з усмешкай прасіла злётаць у краму. На працы я ўсюды паспяваў, і ўсім гэта падабалася. Праўда, на вуліцы неяк звярнуўся інспектар ДАІ, каб я не парушаў хуткасны рэжым, выконваў правілы дарожнага руху і не ляцеў на чырвоны светлафор. Але тое папярэджанне было зроблена са смехам.

**— Вам усюды шанцавала? А непрыемнасці таксама здараліся?**

– Было такое. Калі я хацеў зарэгістравацца як індывідуальны прадпрымальнік, давялося палётаць па кабінетах і ўстановах. Пасля гэтых аблётаў крылы аслаблі, стаміліся, і я адчуваў, што яны могуць у мяне адваліцца.

У адным з кабінетаў мне задалі пытанне: ці збіраюся я лётаць за мяжу. Абавязалі зарэгістраваць мае крылы як індывідуальны лятальны транспарт, адкрыць візу, атрымаць дазвол на пералёты і г.д. За перыяд такіх рэгістрацый я страціў столькі грошай, колькі б змог зарабіць за тры гады. Улез у крэдыты, і мой «лятальны сродак» аслаб так, што я прыпаўзаў дамоў.

Я рады быў дапамагчы людзям. Мне загадалі аблётваць калгаснае поле з тугімі качанамі капусты і папярэджваць, калі нехта будзе набліжацца. Я лётаў, глядзеў навакол, пакуль тыя хлопцы рвалі гародніну і цягалі яе да багажнікаў сваіх аўто. Калі да капуснага поля наблізілася міліцэйская машына, я паведаміў пра гэта мужчынам.

Яны падзякавалі за дапамогу, пакінулі велізарны мех з капустай, які было немагчыма падняць. Спрабаваў цягнуць. Атрымоўвалася дрэнна. У адзін момант я адчуў, як сілы мяне пакідаюць, і крылы паступова пачалі знікаць. Тады і трапіў у рукі міліцыянераў.

Зазвінелі жалезныя краты. Дзверы адчыніліся, і ўвайшоў міліцыянер, які папрасіў журналістку пакінуць камеру...

**Алесь ДОЎГІ,**
*г. Мінск.*



**Казімір КАМЕЙША**

# Панядзелак

Цяжкі дзень?
Ну хто прыдумаў гэта?
Вунь як лёгка дыхае вясна.
А як хто не зразумеў паэта –
Гэта не паэтава віна.

Ён усё аддаў сваёй нядзелі,
Што прыдбаў і што сам Бог паслаў.
У яго на новы дзень надзея,
Толькі б і яна не падвяла.

Можна грэцца музыкай вясёлай,
Тое ўзяць, што дазваляў нарком.
Можна галаву лячыць расолам,
А душа хай лечыцца радком.

Недзе брэша за акном сабака,
Грае нешта муха на акне,
І няма кампаніі ніякай,
Як няма і ісціны ў віне.

Трэба кінуць клопат, клікаць блізкіх,
Біць суседу ў сценку кулаком,
Кланяцца паклонам самым нізкім,
Выбягаць з прамовай на балкон.

Тут і сябра клікнуць не зашкодзіць,
Што з другога берага плыве.
Трэба ўсё ж нядзелю улагодзіць
У грудзях, нагах і галаве.

Не давала спаць яна да ранку.
Вунь яна кішэні ўжо трасе!
Хітрая, падміргвае на шклянку,
А сама яе не паднясе.

Пад віно, пад сонца, пад надзею
Можна й сумнай скрыпцы падцінаць.
Людзі, гэта толькі панядзелак,
Трэба ўсё спачатку пачынаць!..




Пётр КОЗІЧ.




Вікенцій ПУЗАНКЕВІЧ і Аляксандр БАГДАНОВІЧ.




Аляксандр КАРШАКЕВІЧ.

# Пад вуглом 40°




Вікенцій ПУЗАНКЕВІЧ і Аляксандр БАГДАНОВІЧ.



Алег КАРПОВІЧ.




Пётр КОЗІЧ.



Вікенцій ПУЗАНКЕВІЧ і Аляксандр КАРШАКЕВІЧ.




Уладзімір ЧУГЛАЗАЎ.




**Печань: — Калі б у мяне былі рукі, то задушыла бы горла!..**

Аляксандр КАРШАКЕВІЧ.

# Смех – гэта сонечнае святло!



**Па гарызанталі:**

**1.** «А як жа я гарую – \\ Узяў жонку маладую. \\ ... саджаю і мяшу, \\ Дзіця плача – калышу» (*прыпеўка*). **3.**Што ўпрыгожвае ўсмешка? **5.** Чужое дабро бярэ за ... (*прыказка*). **7.** «Шчаслівае ... ў пеўняў: стольκі ў іх «жанчын», і ніводнай жонкі» (*жарт Я. Мальца*). **11.** Вялікі халодны будынак для збожжа. **12.** Кажуць, што жанчыны яе цэняць. **16.** Від цёплай адзежы для ног. **17.** «Хаджу ў ... . Бясплатна» (*з аб'явы ў рэкламнай газеце*). **18.** У царскай арміі – казацкі афіцэрскі чын. **20.** «Пайду барыню скакаць, \\ Надзену ... . \\ Буду ногі падымаць \\ Вышэй табурэткі» (*прыпеўка*). **22.** Тонкая дошчачка. **24.** «Ой, пабач, а ў цябе ... ззаду брудныя!» (*першакрасавіцкі жарт*). **26.** Выключэнне функцый якога-небудзь органа. **27.** У рускай мове – фарба, у беларускай – кветка. **28.** Які гаспадар, такая й ...: узяў сучку за хвост, цягне за вароты (*прыказка*).

**Па вертыкалі:**

**1.** «Высокакваліфікаваны ... дапаможа дрэннаму танцору» (*з аб'явы ў рэкламнай газеце*). **2.** Невялікі рэстаран. **3.** Для госця і рыбы адзін закон: праз ... дні яны пратухаюць (*фінская прыказка*). **4.** Дайджэст раённых навін (*размоўнае*). **6.** Тое, што і самагонка (*размоўнае*). **8.** «А мне мілы на спатканні \\ Прапаноўваў ... . \\ Доўга не згаджалася, \\ Потым – спадабалася» (*прыпеўка*). **9.** Сівы

мужчына для жанчын – як ... для сабакі (*польская прыказка*). **10.** Калі ... туліцца да чалавечага жытла – будзе яшчэ холад (*народная прыкмета*). **13.** Выкананне музычнага твора. **14.** ... прыгожай жанчыны – слёзы кашалька (*італьянская прыказка*). **15.** Ён павышаецца ў жанчыны ў ювелірнай краме. **16.** Невялікі ўзгорак. **19.** «Калі ... – гэта сцежка, вытаптаная думкамі, дык я самы думаючы чалавек» (*афарызм невядомага аўтара*). **20.** «... дзеда шанавала \\ На папары навязала. \\ – Еш, дзед, траву палявую, \\ Пі вадзіцу лугавую” (*прыпеўка*). **21.** Міфічны юнак, які спрабаваў даляцець да Сонца. **23.** «Не дай божа з такім лёсам – \\ Любіць хлопца з доўгім ...: \\ Каб яго пацалаваць, \\ Трэба ... адпілаваць» (*прыпеўка*). **25.** ... нізкі, нос слізкі, відаць, што лізаў панскія міскі (*прыказка*).

**Адказы:**

**Па гарызанталі: 1.** Хлеб. **3.** Твар. **5.** Рабро. **7.** Жыццё. **11.** Гумно. **12.** Увага. **16.** Гетры. **17.** Госці. **18.** Есаул. **20.** Балеткі. **22.** Дранка. **24.** Калені. **26.** Блакада. **27.** Краска. **28.** Работа.

**Па вертыкалі: 1.** Хірург. **2.** Бар. **3.** Тры. **4.** Раёнка. **6.** Барматуха. **8.** Цалаванне. **9.** Вожык. **10.** Бусел. **13.** Ігра. **14.** Усмешка. **15.** Ціск. **16.** Грудок. **19.** Лысіна. **20.** Баба. **21.** Ікар. **23.** Нос. **25.** Лоб.

**Склаў Лявон Целеш,**
*г. Дзяржынск.*

## Анекдот

Салдат атрымлівае ліст ад каханай. Тая піша, што сустрэла іншага і просіць вярнуць свой фотаздымак. Засмучаны салдат збірае з усяго ўзводу ўсе фотаздымкі жанчын і пасылае іх з запіскай:

«Дарагая, на жаль, я не магу ўспомніць, хто з іх ты. Калі ласка, забяры свой фотаздымак і вярні астатнія».

**Даслала Ганна СІНІЦА,**
*г. Барысаў.*

## Аць-два налева!








Алег ГУЦОЛ х 3.

# Сцэны медыцыны

«Вожык» — грамадска-палітычны, літаратурна-мастацкі часопіс

16+

№ 4 (1555), 2018 год.
*Выдаецца з ліпеня 1941 года.*

Заснавальнікі: Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда».

Намеснік галоўнага рэдактара
Аляксандр Пятровіч КАРШАКЕВІЧ.

Рэдакцыйная калегія: Сяргей ВОЛКАЎ, Навум ГАЛЬПЯРОВІЧ, Мікола ГІРГЕЛЬ, Юлія ЗАРЭЦКАЯ, Міхась КАВАЛЁЎ, Казімір КАМЕЙША, Алег КАРПОВІЧ, Міхась ПАЗНЯКОЎ, Уладзімір САЛАМАХА, Васіль ТКАЧОЎ, Мікола ШАБОВІЧ.

Рэдакцыя: Аляксандр КАРШАКЕВІЧ *(намеснік галоўнага рэдактара, мастацкі аддзел)*, Наталля КУЛЬГАВАЯ *(аддзел фельетонаў і пісьмаў)*, Вераніка МАНДЗІК *(аддзел літаратуры)*.

Адрас рэдакцыі
Юрыдычны адрас: Рэспубліка Беларусь, 220013, г. Мінск, вул. Б. Хмяльніцкага, 10 а.
E-mail: info@zviazda.minsk.by.

Паштовы адрас: Рэспубліка Беларусь, 220005, г. Мінск, праспект Незалежнасці, 39.
E-mail: a-vojik@yandex.by;
Тэлефоны: галоўнага рэдактара — 288-24-62, намесніка галоўнага рэдактара, аддзелаў фельетонаў і пісьмаў, літаратуры, мастацкага — 284-84-52, бухгалтэрыі — 287-18-81, факс — 284-84-61.

Падпісныя індэксы:
74844 — індывідуальны, 01380 — індывідуальны льготны,
748442 — ведамасны, 01381 — ведамасны льготны.

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі № 520 ад 10.12.2012, выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.

Выдавец
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда»
Дырэктар — галоўны рэдактар Павел Якаўлевіч СУХАРУКАЎ

Камп'ютарная вёрстка: Дар'я КАМЕЙША
Стыльрэдактар: Марыя ГІЛЕВІЧ

Падпісана да друку 06.04.2018. Фармат 60x84 $^{1}/_{8}$. Афсетны друк. Папера афсетная. Ум. друк. арк. 2,79.
Ул.-выд. арк. 3,28. Тыраж 786 экз. Заказ .

Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «БудМедыяПраект».
ЛП № 02330/71 ад 23.01.2014, вул. В. Харужай, 13/61, 220123, Мінск, Рэспубліка Беларусь.

Матэрыялы не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца, прымаюцца толькі ў электронным выглядзе.
Перадрукоўваючы матэрыял, трэба абавязкова спасылацца на «Вожык».
Аўтары публікацый нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў.
Рэдакцыя можа друкаваць матэрыялы, не падзяляючы пазіцыю і думку аўтараў.

© Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, 2018
© РВУ «Выдавецкі дом «Звязда», 2018













Алег ПАПОЎ х 4.